Народная Воля   17 КРАСАВІКА 2001 г.

РАЗОБЛАЧЕНИЯ

# Украли... киноэпопею

## Фильм “Освобождение” скопирован у американцев

Близится 9 мая — День Победы. Следом грядет 60-летие начала Великой Отечественной войны. И опять появится в телеэфире киноэпопея Озерова “Освобождение”, поистине грандиозный фильм. Во время работы на “Мосфильме” я видел его декорации, в частности, купол рейхстага в натуральную величину, затопленные вагоны на станции берлинского метро. Достоверность такова, что знакомые не верили, когда я убеждал их: это все гигантские декорации в павильоне.

Вопросы исторической достоверности в фильме, правдивость трактовок перипетий войны, оценки роли того или иного советского полководца, анализ правомерности и необходимости его волевых решений — это все сфера специалистов-историков и непосредственных участников тех событий. Меня же задевают лишь появляющиеся хвастливые лозунги, способные дезинформировать несведущих: “Юрий Озеров снял свой знаменитый фильм "Освобождение" за тридцать лет до появления американского “Спасение рядового Райана”!

На самом деле Озеров создал свою эпопею через шесть лет после американцев. “Спасение рядового Райана” увидел свет в 1962 году. На тот период этот фильм был самым постановочным зрелищем. Материалом послужила высадка союзных армий в Нормандии 6 июня 1944 года. Открытие “второго фронта” — беспрецедентная в истории морских десантов операция. Представьте: широкий экран, где появляются с моря, заполняя все пространство, сотни военных кораблей, одновременно ведущих артиллерийский огонь, сотни самолетов, летящих на бреющем полете, сотни автомашин, тысячи солдат...

Действие перебрасывается из берегового дота немцев в гущу десантников на борту американского транспортного корабля из прибрежной французской деревни в ставку Гитлера, из кабины бомбардировщика в штаб союзников в Англии. Причем все действующие лица разговаривают на своих родных языках. Поражало, было новинкой в этом фильме и то, что исторические персонажи — политики, генералитет главным образом были представлены титрами по низу кадра — как бы для мгновенного включения зрителя в суть происходящего при очень частых переносах места действия.

Посмотрели его американский фильм в “высших эшелонах власти” СССР, и, естественно, была дана команда: оплевать! Делали это привычно: “Самый длинный день” на экраны не пустили. Зато жестоко раскритиковали.

Подверглось оплеванию то, что немецкие военные были показаны умными, — понимай, не кретинами, как в советских фильмах тех лет, где немцы между собой разговаривали почему-то на ломаном русском языке.

Говорят, было специальное заседание Политбюро, где решили: надо дать идеологическим противникам отпор, надо достойно ответить! Под известным лозунгом: мы — масштабнее всех, полнее всех, грандиознее всех! Вот так и родилось через шесть лет после американского супер-боевика озеровское “Освобождение”.

Но помимо, мягко скажем, заимствования у американцев самой идеи грандиозного кинопроекта, из картины Д.Занука было украдено буквально все, вплоть до киноприемов: представление титром исторических персонажей, что является для фильмов такого рода совершенно необходимым пояснением; распределение даже самых мелких эпизодов между любимыми зрителем актерами; общение персонажей на своем родном языке с наложением звукового перевода; даже кое-какой юмор...

**Владимир ОРЛОВ,**
**кинорежиссер, член Союза кинематографистов.**

ПРАТЭСТ

# Пра акт дзяржаўнай здрады

12 красавіка 2001 года так званая палата прадстаўнікоў учыніла дзеянне супраць інтарэсаў Беларусі. Члены палаты “ратыфікавалі” пагадненне пра наданне расійскаму рублю статусу валюты Рэспублікі Беларусь.

Адзіным аргументам для “ратыфікацыі” было тое, што гэтае пагадненне ратыфікавала Дзярждума Расійскай Федэрацыі. **Члены “палаты” непасрэдна парушылі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, артыкулы 1, 8, 136. Гэтыя артыкулы ўсталёўваюць наступныя палажэнні:**

* Арт. 136 — **“...Нацыянальны банк ... валодае выключным правам эмісіі грошай”.**

* Арт. 8, абзац 3 — **“Не дапускаецца заключэнне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі”.**

* Арт. 1, абзац 3 — **“Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак”.**

Крымінальны кодэкс, арт. 356, дакладна кваліфікуе такое дзеянне — “...оказание иностранному государству помощи в проведении враждебной деятельности против Республики Беларусь путем совершения преступлений против государства по заданию органов или представителей иностранного государства, умышленно совершенное гражданином Республики Беларусь в ущерб внешней безопасности Республики Беларусь, ее суверенитету, территориальной неприкосновенности, национальной безопасности и обороноспособности (измена государству) — наказывается лишением свободы на срок от семи до пятнадцати лет”.

Лукашэнку і палатнікам не ўдасца прыкрыць свае злачынства “канстытуцыйным актам”, які яны распрацоўваюць і які паспрабуюць прасунуць праз так званы “ўсебеларускі сход” 18 траўня 2001 года. Робіцца гэта таемна ад грамадства, таму адбор удзельнікаў сходу вядзецца пад пільным наглядам рэжыму.

“Ратыфікацыя” высвятляе сутнасць намаганняў расійскай дыпламатыі, антыбеларускага лукашэнкаўскага рэжыму і прамаскоўскай “апазіцыі”. Яны імкнуцца рознымі метадамі схіліць заходнія краіны прызнаць легітымнасць “палаты”. Прызнанне “палаты” за легітымны парламент неабходна Маскве толькі для прыдання выгляду законнасці далучэння Беларусі да Расіі. Задачы акупацыі Беларусі расійскі імперскі рэжым перавёў у закрыты, так званы “саюзны” працэс і вырашае іх праз захоп кіруючых пасад у выканаўчай уладзе і сілавых ведамствах, праз знішчэнне беларускага бізнесу і незаконнай прыватызацыі беларускай уласнасці.

Здрадніцкія дзеянні прамаскоўскай групоўкі сустрэнуць рашучы адпор беларускай грамадскасці.

**Кіраўніцтва Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

СЛЫШАЛИ?

## Александр Добровольский принимает предложение Александра Лукашенко

В своем телевыступлении 10 апреля текущего года Александр Лукашенко предложил представителям оппозиции посетить вместе с ним чернобыльские регионы 25—26 апреля.

Объединенная гражданская партия поддержала эту инициативу, о чем в установленном порядке проинформирована Администрация Лукашенко. Заместитель председателя ОГП Александр Добровольский и его коллеги готовы не только составить компанию Александру Григорьевичу в поездке, но и изложить на встречах с жителями чернобыльских регионов свои подходы к преодолению последствий чернобыльской катастрофы.

**Пресс-служба ОГП.**

**АБ'ЯДНАНАЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ ПАРТЫЯ**

*Рэспубліка Беларусь.*
*220050, Мінск, вул. Камсамольская 11-216*
*тэл. (017) 227-75-49, факс 211-02-79*
*E-mail: ucp@mail.ru*

**UNITED CIVIL PARTY**

*Republic of Belarus,*
*220088,Minsk,11-216,Kamsamolskaya str.*
*tel. +375 (17) 227-75-49, fax 211-02-79*
*E-mail: ucp@mail.ru*

16.04. 2001 г. № 34/06

Уважаемый Александр Григорьевич!

Объединенная гражданская партия рассмотрела Ваше предложение о совместной поездке 25—26 апреля в регионы Беларуси, загрязненные в результате катастрофы на Чернобыльской АЭС, прозвучавшее в телевизионном выступлении 10 апреля 2001 года. Мы расцениваем Вашу инициативу как первое серьезное предложение, направленное на создание климата доверия в обществе.

Делегация ОГП во главе с заместителем председателя ОГП Александром Ольгертовичем Добровольским готова принять участие в совместной поездке в чернобыльский регион.

О времени и месте отъезда просим сообщить в Исполком ОГП по телефону/факсу 211-02-79 и 227-75-49.

**Председатель Объединенной гражданской партии, заместитель председателя Верховного Совета Республики Беларусь.**

**А.В.Лебедько**

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

## Гамлетаўскае пытанне стаіць перад намі, беларусамі, — зможам мы і далей жыць на гэтай зямлі ці згінем?

### 6. Як “уехаць” у “Чырвоны дом”?

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 66— 70)*

Каралі прыходзяць і адыходзяць. Але па-рознаму.

Не так даўно адбылася “змена каравула” ў ЗША. Мне запомніліся простыя і важныя словы новага амерыканскага прэзідэнта Джорджа Буша пры каранацыі: “Мірная перадача ўлады — рэдкая ў гісторыі, але будзённая ў нашай краіне. Простай клятвай мы пацвярджаем старыя традыцыі і адкрываем новыя пачынанні.... Для мяне вялікі гонар стаяць тут, дзе стаяла столькі лідэраў Амерыкі і дзе столькі яшчэ іх будзе стаяць”.

Для нашага ж караля зусім не гонар стаяць пры перадачы ўлады іншаму. З яго заяў відаць, што ён будзе біцца за ўладу “да апошняга патрона”. Апошнія выбары і давыбары паказалі, што спадзяванняў на сумленнае спаборніцтва мала. А тут яшчэ электарат такі сонны. Як жа быць і што рабіць?

Ёсць некалькі шляхоў. Галоўны з іх — пачаць нацыянальнае адраджэнне праз адраджэнне нацыянальнай інтэлігенцыі, ці, гаворачы вобразна, нацыі трэба адрадзіць “галаву і яе мозг”, без чаго ні адзін народ не зможа нармальна развівацца.

Але ў цяперашніх умовах гэта неажыццявіма. Хто ж цяпер дапусціць у школы, універсітэты, на радыё і тэлебачанне нацыянальна свядомых беларусаў? Пайсці ў народ, як заклікаюць некаторыя? Але ж ужо былі “народнікі”. Больш за сто гадоў назад яны даказалі бесперспектыўнасць падобнай ідэі. Ды і часу няма. Застаецца самую важную справу адкласці на потым, да лепшых часоў. Толькі пасля заваявання свабоды можна будзе выводзіць тутэйшых з летаргічна-каланіяльнага сну.

У данай сітуацыі лепш падыходзіць варыянт, выказаны ў нямецкай дырэктыве Герберта Баке: “пескарамі” трэба камандаваць. Браць уладу згодна з Канстытуцыяй і камандаваць.

З такім цярплівым народам, як наш, за мінулыя дзесяць гадоў у Беларусі можна было адгрохаць другі Кувейт, завалены прадуктамі і доларамі. Ды ў руля аказаліся проста непадрыхтаваныя людзі.

Тыя сілы апазіцыі, якія імкнуцца цяпер разбудзіць, разварушыць электарат, робяць непапраўную памылку. Скажу пра тое, аб чым дыпламаты раяць маўчаць. З людам, які прачнуўся пасля дурману, лягчэй браць крэпасці, але амаль немагчыма нешта будаваць, зацягваючы папругі. Яны ўжо будуць праганяць усіх, хто не дасць ім “малочныя рэкі”. Прагоняць і настаўнікаў-апазіцыянераў.

З тутэйшымі можна лягчэй пераджыць самы цяжкі першы этап пераўтварэнняў, непапулярныя рашэнні і закласці добры падмурак сапраўднага светлага будучага. У ходзе будаўніцтва краіны адбудзецца самы лепшы варыянт прачынання і нацыянальнага адраджэння. Нездарма кажуць: гадзіна работы навучыць болей, чым тыдзень тлумачэнняў. Асабліва раба. Бо ён толькі тады адчувае ланцугі на нагах, калі пачынае рухацца.

Такім чынам, трэба браць уладу і “камандаваць пескарамі”. Словам, мы падышлі да важнейшай падзеі не толькі сёлетняга года — да прэзідэнцкіх выбараў.

Як іх выйграць? У грамадстве мусіруецца думка аб адзіным кандыдаце дэмакратычных сіл. Яна наколькі прагрэсіўная, настолькі і памылковая. Вядома, адзіны кандыдат ад некалькіх палітычных сіл у нармальнай краіне мае вялікі шанц на перамогу. Але гэта, падкрэслю, у нармальнай краіне. А ў нашай? Дзе гарантыя, што адзінага кандыдата не арыштуюць? Ды і ці можа быць у нас адзіны альтэрнатыўны кандыдат? Не веру. Вунь ужо камуністы аб'явілі, што выставяць свайго, беларускія жырыноўцы даўно раскручваюць Гайдукевіча, пазнякоўцы — за Пазьняка...

Ва ўсіх столькі амбіцый, што, здаецца, шчокі трэснуць ад раздування. Вось каб хоць трошачкі было разважлівага сэнсу. Хоць столечкі, каб зразумець, што цяперашні агульны кандыдат ад дэмакратычных сіл — фігура пераходная, часовая. Яго задача: пасля перамогі стварыць у краіне дэмакратычную, вольную атмасферу. Вось тады і надзімайце свае шчокі амбіцыямі і ідзіце на выбары кожны пад сваім сцягам. Але не цяпер. Цяпер варта змагацца за галоўнае — адхіленне ад руля дыктатара. Для чаго варта ўсім ісці пад адным сцягам. Сумна, вельмі сумна, што такую просценькую ісціну ды яшчэ трэба даказваць.

Вядома ж, і жырыноўцы, і камуністы, і іншыя выставяць сваіх кандыдатаў і будуць моцна крытыкаваць Лукашэнку, але з адной мэтай — адцягнуць на сябе частку галасоў незадаволенага электарата і тым самым паспрыяць перамозе кандыдата ад улады. Навошта ж з імі гуляць у адзінага кандыдата? Так можна толькі заблытаць свой электарат.

Дарэчы, партыям і грамадству варта было б разабрацца, якую ролю іграюць Статкевіч і Гайдукевіч. Спярша спадар Статкевіч стварыў Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, у якое ўвайшлі нацыянальна свядомыя афіцэры. Пазней яны былі звольнены з арміі. Потым Статкевіч узяўся за сацыял-дэмакратычную партыю і раскалоў яе. Цяпер вось падрывае адзінства дэмакратычных апазіцыйных сіл.

Так што кандыдатаў у нас чакаецца шмат. У тым ліку і ад дэмакратычных сіл. І гэта не кепска, а нават добра. Не пашкодзіць мець 4—5 кандыдатаў-дэмакратаў. Бо завесці крымінальныя справы на ўсіх пяцярых ужо рызыкоўна для самой улады.

Тут я хачу звярнуць вашу ўвагу на пісьмо спадара Крэменя са Скідзеля, з якога і пачынаюцца артыкулы. Ён прапануе мець агульнага кандыдата не ад апазіцыі, а ад народа. Калі хочаце, каманду такіх кандыдатаў. І гэта прынцыповы і выйгрышны варыянт. Важна данесці да выбаршчыкаў, што вось яны, вось гэтыя — нашыя, наша надзея, а тыя, астатнія крыкуны, проста падыгрываюць уладзе.

На жаль, шмат валтузні вакол адзінага кандыдата, адзінай каманды. А гэта ж не надта складанае пытанне. Куды важней — раскрутка магчымых кандыдатаў, пакуль — як змагароў за лепшую долю. Па заводскіх радыё, праз шматтыражкі, рэгіянальныя выданні — пакуль вертыкальшчыкі не расчухаліся. Раз паднялі сцяг, пара падымаць і якар. Ды акружэнне магчымых кандыдатаў праспала важны этап. А ў палітыцы спаць нельга. Самая вялікая памылка, можна сказаць, памылка памылак — спазненні з прыняццем рашэнняў, нерашучасць. У верасні можна кінуць у глебу выдатнае насенне бульбы, добра апрацаваць і ўгнаіць поле, але ўраджай не вырасце, бо позна пасаджана. Я многім паўтараю: “На вакзале лепей быць на гадзіну раней, чым на мінуту пазней”.

Многія беды і правалы падпільноўваюць палітыкаў з-за таго, што ім ў свой час не ўдзяўблі такое правіла. Яшчэ вялікі Дэмакрыт навучаў: нерашучасць і павольнасць робяць любыя мэты недасягальнымі. Чарнышэўскі дабаўляў: нішто так не гібельна для людзей як ў асабістым жыцці, так і ў дзяржаўным, як нерашучасць". Я лічу, што ў свеце няма нічога больш разбуральнага, як бяздзеянне і чаканне, ці, гаворачы вобразна, “пасадка бульбы ў верасні”.

Усе чакаюць дзяржаўнай адмашкі — прызначэння даты выбараў. Але ж адначасова з ёю варта чакаць і “табу” на допуск да выданняў. Да таго ж, калі ўсе распачнуць нахвальваць сваіх, эфект прапаганды ўпадзе да самай нізкай адзнакі.

Наша бяда і ў тым, што ў краіне адзінкі спецыялістаў, якія валодаюць сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. А ў выбарчых штабах шэрагу партый і магчымых кандыдатаў я не бачу ніводнага Глеба Паўлоўскага, таго, што паспрыяў Пуціну заняць крэсла ў Крамлі. А калі няма апоры на такіх спецыялістаў, няма і сэнсу ўдзельнічаць у выбарах. Яркі доказ таму — правал Міхаіла Чыгіра (былога прэм'ер-міністра, чалавека вядомага) нават у адной выбарчай акрузе ў час парламенцкіх выбараў. Аб гэтым жа сведчыць і правал прафсаюзнай акцыі 14 лютага. Кіраўнікі прафсаюзных арганізацый, якія ёсць на ўсіх прадпрыемствах і амаль ва ўсіх працоўных калектывах і пры гэтым не змаглі вывесці на мітынг каля ста тысяч мінчан, могуць болей не гуляць у прэзідэнцкія выбары, бо яны не здольныя будуць прывесці сваіх выбаршчыкаў і да урн.

Дык што ж гэта за такое — сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі? Адны іх называюць эфектыўнымі, другія — чорнымі. Як бы там ні было, але яны дазваляюць дамагацца пастаўленай мэты. Вядома, наш артыкул не аб іх. Але некаторыя разважанні не магу не выказаць. Незалежны інстытут палітычных і сацыяльна-эканамічных даследаванняў праводзіць апытанне на важную тэму: якія праблемы больш за ўсё турбуюць беларускае грамадства? Я раіў бы вынікі такіх апытанняў пастаянна трымаць перад сваім носам магчымым кандыдатам, членам іх штабоў, лідэрам партый, журналістам... Каб ведаць, пра што гаварыць і якія пытанні задаваць. Я раіў бы і рэдактарам газет трымаць пад сваім носам вынікі такіх апытанняў, калі яны хочуць, каб іх выданні займелі паболей чытачоў.

З электаратам трэба гаварыць на тую тэму, якая яго цікавіць. Нашыя ж прэтэндэнты ў дэпутаты і прэзідэнты часцей балбочуць пра тое, што цікавіць асабіста іх і іх калег.

Замест “пахода ў народ” варта распачаць “паход у выбарчыя камісіі розных узроўняў”. Там жа ёсць сумленныя людзі. Пачаць “паход” у расійскія СМІ, да расійскіх палітыкаў, вуснамі якіх праз маскоўскія СМІ можна весці эфектыўную прапаганду.

Відавочна, што прэзідэнцкая выбарчая кампанія будзе абмежавана даволі сціслымі тэрміновымі рамкамі. У такіх умовах галоўны прэтэндэнт ад улады мае шэраг пераваг, а яго канкурэнты не паспеюць не тое каб раскруціцца, але некаторыя і сабраць подпісы. Як з гэтым змагацца? Універсальны закон, які ўладарыць у нашым свеце, па-народнаму гучыць так: любы клін выбіваецца толькі аналагічным клінам. Калі ўлада выстаўляе свой “клін”, апазіцыя павінна выставіць свой.

Калі на сбор подпісаў у падтрымку кандыдатаў будзе адведзена няшмат часу, дык і галоўны прэтэндэнт вымушаны будзе прыбегнуць да дзяржаўнага рэсурсу, ці, гаворачы працей, прымусовых подпісаў у яго падтрымку. Вось тут і могуць дэмакраты падлавіць яго. І галоўны



прэтэндэнт можа стаць ахвярай свайго “кліна” — не сабраць патрэбную колькасць подпісаў для сваёй рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў прэзідэнты.

І гэтак па кожнай пазіцыі. У адказ на яго жорсткасць да апазіцыі тая павінна выставіць свой “клін”. Словам, шмат увагі варта ўдзяліць не толькі і не столькі свайму прэтэндэнту, колькі яго галоўнаму саперніку, трэба мець асобны штаб, які займаўся б сапернікам.

Электарат, у галаве якога толькі каўбаса і да каўбасы, традыцыйнымі падыходамі, такімі, як расказ пра сваю праграму, лістоўкі, хаджэнне па кватэрах, выступы на радыё і ў калектывах, хачу гэта асабліва падкрэсліць, такімі падыходамі яго не прыгалубіш. Бо яму начхаць на тваю праграму і твае ўгаворы. Што яго хвалюе? Пазнаёмцеся з вынікамі апытанняў, аб якіх сказана трошкі вышэй.

Такі электарат любіць скандальчыкі. Толькі на скандальчыках, як на варaных, можна ўехаць у Чырвоны дом. Невыпадкова Лукашэнка нядаўна заявіў, што выбарчая кампанія будзе сумнай для журналістаў. Можаце не сумнявацца, што ўлада будзе імкнуцца зрабіць яе менавіта такой. Значыць, у яе добрыя кансультанты. Ёй не патрэбны скандальчыкі. Але ж у нас такая ўлада, якая вельмі ахвотна ўвязваецца ў бойкі. І было б грэх не выкарыстаць яе такую слабінку.

Душа нашага электарата моцна знявечана хлуснёй. Значыць, не абысціся без абяцанак, яркіх і гучных. Гэтыя выбары, як і папярэднія прэзідэнцкія, стануць спаборніцтвам не праграм, не інтэлектаў, а абяцанак. Выйграе той, хто не толькі паабяцае ўсіх накарміць, напаіць, апрануць і вылечыць, але і зможа падаць гэта ў яркай, кароткай і праўдападобнай упакоўцы. Так што ў гэтым палітычным сезоне ў асаблівай модзе будзе доўгая лапша на вушы.

І ўсё-такі пра адну праўду нельга прамаўчаць. Яе званок для нас прагучаў у Югаславіі. І былы югаслаўскі лідэр Мілошавіч, і яго падпявалы даказвалі, што да бамбардзіровак справа не дойдзе, проста НАТО папужае, і гэтым усё скончыцца, тым болей што Расія выступае гарантам югаслаўскай бяспекі. А што атрымалася? З-за Мілошавіча так урэзалі Югаславіі, што разбамбілі амаль усю прамысловасць. Я баюся, што калі застанецца сённяшняя ўлада, нам наўрад ці ўдасца пазбегнуць югаслаўскага варыянту, бо Еўропа не можа цярпець ракавай пухліны на сваім целе. Выбаршчыкам варта данесці гэту страшную перспектыву: застанецца Лукашэнка — чакай бомбы на свой дом.

А яшчэ насоўваюцца санкцыі МАП (Міжнароднай арганізацыі працы). Эканамічная ізаляцыя не менш страшная, чым бомбы.

У тых, хто пакуль “не врубился”, хачу пацікавіцца: вы ведаеце, якое рашэнне з'яўляецца самым мудрым? Не? Тады паслухайце. Геніі многіх часоў паўтаралі: самае мудрае рашэнне тое, якое ўлічвае канкрэтныя абставіны і дазваляе прыстасавацца да іх.

**І ўсё ж самае-самае... падлік галасоў.** Як колісь цынічна заўважыў таварыш Сталін: важна не тое, як галасуюць, а як падлічваюць галасы. Адно з самых вялікіх дасягненняў сённяшняй улады, па-мойму, створаная ёю сістэма па падліку галасоў. Не выпадкова ж, паведамленне апазіцыі аб жаданні наладзіць дзейсны кантроль за падлікам галасоў на выбарах выклікала ў прадстаўнікоў улады шок і істэрыю. Яны пачалі абзываць будучых назіральнікаў баевікамі і бандытамі, палохаць імі людзей, што сведчыць аб адным — апазіцыя наступіла ўладзе на мазоль. Таму сёння самая-самая важная задача — паклапаціцца пра будучы падлік галасоў.

Даўно час з усяе сілы біць у міжнародныя званы:

— Ніякіх масавых датэрміновых галасаванняў, калі ўлада мае ўсе магчымасці падмяняць бюлетэні. Правесці датэрміновае галасаванне ў адзін дзень з падлікам галасоў.

— **Новае фарміраванне выбарчых камісій усіх узроўняў на дэмакратычнай аснове.** Камісіі, якія правялі дзве выбарчыя кампаніі і вынікі ніводнай не прызнаны еўрапейскім супольніцтвам, не маюць ніякага права заставацца на працы ніводнага дня.

— Ці мае права праводзіць выбары прэзідэнт, легітымнасць якога многімі не прызнаецца? Яму варта на час выбараў пайсці ў адстаўку. Гэта, бадай, галоўная ўмова сумленных выбараў.

— Доступ дэмакратычных сіл ў дзяржаўныя СМІ. Час ужо “браць тэлебачанне” ўсімі даступнымі, законнымі метадамі.

Сёлетні год можа стаць апошнім. Апошнім годам надзеі. Мяркую, улада болей не дапусціць нават гульні ў выбары і хоць нейкага абазначэння апазіцыі. Краіна пойдзе па шляху Кубы і Паўночнай Карэі.

Таму незразумела, чаму нашы дзеячы яшчэ не звярнуліся з лістом да прэзідэнта ЗША Буша. Ні Вярхоўны Савет, ні кіраўнікі партый і рухаў, ні свядомыя грамадскія дзеячы. Мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі, падпісаны ЗША, Вялікабрытаніяй і Расіяй у 1994 годзе, ніхто не адмяняў. Да таго ж Кангрэсам ЗША летась прыняты рэзалюцыі па Беларусі №№304 і 153, у якіх запісаны сур'ёзныя канкрэтныя даручэнні прэзідэнту Амерыкі, якія ён не можа не выканаць. Вядома, Бушу пакуль не да Беларусі. Але хто павінен напомніць яму, як не мы? Не, чакаюць, пакуль у Вашынгтоне самі ўспомняць.

Пра расійскі фактар. Ён вызначальны. Каго палюбіць Масква, таго палюбяць і зацюканыя беларусы.

Маскве, напэўна, надакучыла наступаць на беларускія граблі. Зазначу, што ў нашым Брэсце рускія падпісалі ганебны дагавор з Германіяй. У Магілеве расійскі цар Мікалай прыняў рашэнне аб адмове ад улады. У Мінску адбыўся першы з'езд расійскіх бальшавікоў і адсюль пайшла на Расію чырвоная зараза, якая адкінула імперыю далёка назад. У Белавежскай пушчы быў падпісаны смяротны прыгавор імперыі пад назвай “Савецкі Саюз”... Названыя крушэнні інтарэсаў Расіі здарыліся тады, калі ў Мінску рулілі яе халуі і згоднікі. Яна адчувае, што з-за Лукашэнкі можа згубіць месца ў васьмёрцы вядучых краін свету. А гэта ж для яе будзе раўназначна таму, што здарылася ў Белавежскай пушчы.

Так што пара дзейнічаць! Ці, як казалі камуністы, заканчваючы кожны свой з'езд: “За работу, товарищи! За такую работу, каб ”наша хата не ведала доктара і адваката". Няхай заўжды з намі будуць палымяныя радкі нашага песняра Янкі Купалы:

*Устань ты, старонка, родная маці!*
*Годзе зімовага рабскага сну,*
*Годзе табе ўжо слёзна ўздыхаці, —*
*Выйдзі на поле, на сенажаці,*
*Выйдзі спаткаці вясну!*

Хопіць бяздзейнічаць! Бацькаўшчына ў небяспецы! Сёлета ці ніколі!

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

# ОН ВСЕХ «ПОСЛАЛ»

## Так Павел Козловский оценил ежегодное послание Лукашенко парламенту

**— Павел Павлович, каково Ваше впечатление от ежегодного послания президента?**

— Глубокое разочарование. Если сказать более определенно, то такого рода “послания” только демонстрируют уровень интеллектуальной деградации современных властных структур. Страна находится на переломе. Жестокими административными мерами сельское хозяйство практически низведено до уровня каменного века, промышленность превратилась в бессмысленного переработчика сырья и энергетики на склады, мы не удержали не только внешние рынки, но теряем с каждым днем свои. Приватизационная стоимость наших предприятий падает. Страна теряет лучшие головы и квалифицированные руки. Хотелось услышать, что власть видит глубину кризиса, в который сама завела наш народ, и готова предложить хотя бы подходы для их решения. Но ничего, кроме маниакального чванства на основе мнимых “успехов”, мы не услышали.

**— “Батька” продекларировал новые, дополнительные приоритеты нашей экономической политики. По силам ли нам новые “вершины”?**

— Практически “завалены” предыдущие — экспорт, продовольствие, жилье. Мы получили по итогам 2000 г. более миллиарда дефицита внешней торговли, даже более-менее удачный по урожаю 2000 г. оказался “липовым” на один миллион тонн зерна, строительство жилья стало недоступным для абсолютного большинства населения страны, что, между прочим, признал и Лукашенко.

Взять “дополнительные обязательства” — рецидив административной болезни. Мало того, что власть не понимает саму природу создания в экономике приоритетов. Ведь в нормальной рыночной экономике годами нащупываются “точки роста” и места в мировом разделении труда. Сделать это административными мерами невозможно и пагубно для экономики. Это даже студенты понимают.

Активизировать инновационную и инвестиционную деятельность может только сама власть. И первым шагом для этого должны быть абсолютно прозрачные и демократичные президентские выборы. Между прочим, выдвижение такого “финансового” приоритета говорит о том, что в казне “мышь повесилась”.

В Послании указывается, что реформы на селе не ставят своей целью уничтожение колхозов и совхозов. Более того, колхоз — это “своего рода общественно-территориальное образование”, которое, как я понял, должно обеспечить А.Г., “единственному” кандидату в президенты, стопроцентную поддержку на предстоящих выборах. Власть ставит задачу всемерного сохранения данной социально-экономической структуры на селе.

**— Есть ли перспективы у такого сельского хозяйства?**

Это — тупик. Реформирование агропромышленного комплекса без решения проблемы собственности на землю не имеет смысла и является пустой тратой времени и денег. Превращение колхоза или совхоза в опору власти в деревне чревато ростом иждивенческого отношения среди крестьянства. Бездумное затыкание финансовых дыр не идет на пользу нашему сельскому хозяйству. Административное давление на фермерство привело к уничтожению реального перспективного конкурента колхозно-совхозного строя. И здесь политическая целесообразность подрывает экономику важнейшей отрасли страны.

**— Лукашенко продемонстрировал очень жесткий подход к частному предпринимательству. Чем, на Ваш взгляд, объясняется такая нетерпимость?**

— Это просто невероятно, что в послании парламенту страны мы встречаем ругательства и издевательства в адрес огромной прослойки нашего общества. Мы услышали и “каждый чих”, и “купи-продай”, и “не самые бедные”, а в итоге “нечего плакаться”. По-видимому, наша власть считает, что все граждане страны должны быть безмолвными рабами и их трудовая деятельность должна целиком находиться под надзором государства. Люди, которые сами себя трудоустроили и сами содержат себя и свои семьи, являются безусловным укором для системы, где положено рабски выпрашивать подачки у власть предержащих. На мой взгляд, экономики здесь крайне мало, а вот политики и идеологии явный избыток.

**— И последнее. Как Вы считаете, что будет главным в президентском послании 2002 года?**

— Будут стоять следующие первоочередные задачи — избавить граждан Беларуси от нищеты, страха, вранья. Обеспечить возрождение государства на основе свободного труда свободных людей. Стать равноправными партнерами в семье цивилизованных стран. Установить взаимовыгодные условия интеграции с Российской Федерацией, прежде всего в области экономики. Но это будет зачитывать другой человек.

**Беседу вел Андрей АХРАМЕЕВ.**

# Принуждают к субботнику

**Если Конституционный суд рассмотрел жалобу какого-то чудака от медицины, то почему бы мою не рассмотреть...**

Уважаемая редакция!

Вот опять грядет субботник. Я работаю в бюджетной организации и, соответственно, не произвожу никакой продукции. Меня опять (и ежегодно) заставляют выходить в субботу на работу и мыть окна или мести территорию. Но на это ведь есть уборщицы и дворники, они за это получают зарплату.

Если же я в субботу на работу не выйду — будут неприятности. Выйду — с меня высчитают в “добровольном” порядке из зарплаты однодневный заработок, хотя я ничего не заработаю и за этот выход на работу ничего не начисляют в бухгалтерии.

Это какой-то абсурд!!!

Почему бы в нашем уважаемом Конституционном суде не рассмотреть законность всего этого? Ведь это нарушение моих (и не только моих) конституционных прав. Нашел же Конституционный суд время рассмотреть жалобу какого-то чудака от медицины о законности взыскания профсоюзных взносов через бухгалтерию. По-моему, ситуация сходная.

**Людмила НОВИКОВА, жительница Могилева.**

